*Курапацкая мяжа. Дзе яна? (стар. 2)*
*Без верталёта з самагонам не справіцца (стар. 4)*


# СВАБОДА

Год заснавання 1902
Выходзіць з 1990
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік і выдавец Павел Жук
Наклад 46.300
Адрас рэдакцыі:
220088, Мінск, вул.Іванаўская, 56
Тэл./факс 2 362 441

5 лістапада 1996 г. № 84 Кошт свабодны



ДЗЯРЖАЎНЫ КАМІТЭТ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПА ДРУКУ

ГОСУД... РЕС...

220048, Минск, праспект Машэрава ...
Тэл. (017) 223 92 31, факс (017) 22...

...ова, 11
(017) 223 34 35

1.10.96

на №

ИСКОВОЕ ЗАЯВЛЕНИЕ
о прекращении деятельности средства массовой информации - газеты "Свабода"

...ший Хозяйственный Суд Республики Беларусь

Истец: Государственный комитет Республики Беларусь по печати 220004, г.Минск, пр-т Машерова, 11

Ответчик: Редакция газеты "Свабода" 220088, г.Минск, ул. Ивановская, 56

Редакцией газеты "Свабода" при публи... нарушался Закон "О печати и других ... материалах, опубликованных на ... соответствующие действитель... помещена корреспонде... доставлен на На... Беларусь ... дей...

31 мая 1996 года появилась публикация "Как судили - знаем. А кто судил?", в которой содержится информация, направленная на дискредитацию судебной системы. Этим самым нарушен закрепленный в Конституции принцип независимости судей и ст. 5 Закона "О печати..." в части "посягательства на нравственность, честь и достоинство граждан". Эти действия Министерство юстиции в своем письме в Госкомпечать расценило как нарушение Закона "О печати..." по ст.5.

17.09.96 в статье "Евангелие от лукавого" также нарушена ст. 5 Закона в части "разжигания национальной, социальной, расовой, религиозной нетерпимости либо розни".

...оспошлины.

...редседатель В.П.Бельский

# Новы ход цэнзуры

## *Газету СВАБОДА ў чарговы раз вырашылі закрыць*

Разгляд справы прызначаны на 12 лістапада ў Вышэйшым гаспадарчым судзе. Ініцыятарам забароны СВАБОДЫ выступіў Дзяржкамдрук у асобе яго старшыні У.Бельскага. У змаганні з незалежнай прэсай гэты нязрушлівы чыноўнік імкнецца пераўзысці нават сумнавядомага палкоўніка Заміталіна, які шмат разоў (спачатку пры Кебічы, потым пры Лукашэнку) спрабаваў «пахаваць» нашу газету. Што з гэтага атрымалася — вы ведаеце: сёння СВАБОДА з'яўляецца лідэрам незалежнай прэсы ў Беларусі.

Бельскі і кампанія павінны, нарэшце, зразумець: немагчыма забараніць газету, якую чытаюць дзесяткі тысяч людзей.

*Рэдакцыя газеты СВАБОДА*

# Канстытуцыйны суд адмучыўся

**Учора позна ўвечары Канстытуцыйны суд павінен быў вынесці свой вердыкт па справе аб рэферэндуме. На жаль, графік адпраўкі газеты ў друкарню не даў нам магчымасці дачакацца рашэня КС. А разгортваліся падзеі наступным чынам.**

Цесная зала Канстытуцыйнага суда, відаць, здаўна не памятае такога аншлагу, які ёй выпала вытрымаць 1 лістапада, калі КС распачаў разгляд пытання накont адпаведнасці Канстытуцыі пастановы Вярхоўнага Савета «Аб правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму і мерах па яго забеспячэнні» (а больш дакладна — тых пунктаў дадзенай пастановы, якія тычацца змяненняў і дапаўненняў у Канстытуцыю, прапанаваных прэзідэнтам і парламентам). Ініцыятарам справы быў спікер парламента С.Шарэцкі.

Суддзя С.Цішкевіч, дакладваючы па справе, адзначыў, што ў КС паступілі экспертныя ацэнкі не толькі айчынных, але і замежных юрыстаў з 12 краін (Францыі, Нямеччыны, ЗША і інш.). Суддзя-дакладчык засяродзіў увагу на тым, што прапанаваныя змяненні і дапаўненні *«карэнным чынам змяняюць дзяржаўны лад»*, і фактычна згадзіўся з парламенцкім бокам у тым, што гэта не проста змяненні, а, па сутнасці, новыя праекты канстытуцыі.

Уласна кажучы, гэтага не адмаўлялі і прадстаўнікі прэзідэнта, якія бралі ўдзел у паседжанні ў якасці сведкаў. Функцыі адвакатаў прэзідэнцкага боку актыўна выконвалі суддзя Р.Васілевіч, міністр юстыцыі В.Сукала і намеснік старшыні Вярхоўнага суда І.Міранічэнка. Прычым калі першыя, трэба аддаць належнае, выконвалі гэтую задачу даволі абгрунтавана, дык апошні — вельмі нязграбна. Аднак, не аспрэчваючы таго, што прэзідэнт прапануе праект новай канстытуцыі, намеснік кіраўніка адміністрацыі прэзідэнта А.Абрамовіч і вядомы чытачам СВАБОДЫ прэзідэнцкі юрыст А.Пласкавіцкі са шматлікімі спасылкамі на Канстытуцыю і закон аб рэферэндуме Рэспублікі Беларусь пераконвалі суд у тым, што забаронаў выносіць новы Асноўны Закон на рэферэндум не існуе. Парламенцкі юрыст А.Матусевіч настойваў на процілеглым.

Пры гэтым пазіцыя А.Матусевіча была загадзя хісткай у тым плане, што Вярхоўны Савет патрабуе прызнаць антыканстытуцыйнай уласную пастанову. Але па іншых аспектах А.Матусевіч перакаnaўча паказаў шмат парушэнняў заканадаўства А.Лукашэнкам. У прыватнасці, ён падкрэсліў, што, насуперак закону, прэзідэнцкія змяненні і дапаўненні не былі апублікаваныя — новая рэдакцыя Канстытуцыі ў друку падавалася суцэльным тэкстам, без вылучэння асобным шрыфтам прэзідэнцкіх паправак, што не дае магчымасці грамадзянам пабачыць, у чым менавіта змяняецца Канстытуцыя. Акрамя таго, тыя змяненні былі неканчатковымі, і цяпер прэзідэнт прапануе новыя, якіх парламент не разглядаў. Таму дэпутаты павінны нанава пачаць працэдуру іх абмеркавання і прыняць новую пастанову аб даце рэферэндуму. Усё гэта было настолькі відавочным, што лукашэнкаўскія прадстаўнікі не здолелі проціпаставіць абсалютна нічога. А.Абрамовіч нават не спрабаваў абвяргаць той факт, што тэкст змяненняў ёсць частка пытання, якое выносіцца на рэферэндум, і толькі сказаў, што ў выпадку перанясення даты рэферэндуму з прычыны новых змяненняў прэзідэнт гатовы ад іх адмовіцца і спыніцца на першапачатковых. А.Пласкавіцкі, у адрозненне ад свайго паплечніка, сцвярджаў, што пытанне і тэкст змяненняў не звязаныя паміж сабою і што тэкст можа быць апублікаваны хоць сабе напярэдадні галасавання, чым выклікаў законнае здзіўленне члена суда. На пытанне суддзі М.Чудакова, як у такім разе быць з усвядомленым выбарам народа, прэзідэнцкі юрыст наогул не здолеў адказаць хаця б нешта выразнае.

Напрыканцы першага дня КС заслухаў палову (траіх) з запрошаных экспертаў. Дацэнт БДУ В.Сажына ў сваім бліскучым выступленні, проста пакарыўшы аўдыторыю, спасылалася на вопыт іншых дзяржаў (не адлюстраваны, аднак, у беларускім заканадаўстве), дзе новыя канстытуцыі без папярэдняга абмеркавання ў парламентах на рэферэндумы не выносяцца. Пры гэтым яна канстатавала, што дакладна вызначыць, ці з'яўляюцца «змяненні і дапаўненні» новай канстытуцыяй, немагчыма, «усё гэта суб'ектыўна». А дырэктар юрыдычнай фірмы В.Бараўцоў «са слязьмі на вачах», як ён выказаўся, мусіў прызнаць, што з прававога пункту гледжання для забароны рэферэндуму падстаў няма.

4 лістапада Канстытуцыйны суд працягваў разгляд справы. Былі заслуханыя ацэнкі замежных экспертаў, чые меркаванні мала чым адрозніваліся адно ад аднаго: прызнаецца, што прэзідэнцкі праект утрымлівае падставы для дыктатуры і таталітарызму, але не адмаўляецца права прэзідэнта выносіць праект на рэферэндум.

Практычна адзіныя ацэнкі выказалі Вярхоўны суд, Вышэйшы гаспадарчы суд, Пракуратура і міністэрства юстыцыі — праект можа быць прыняты шляхам рэферэндуму. Канчатковае рашэнне КС было абвешчана ўчора ўвечары.

**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ**

# На якой «міне» падарваўся Мальцаў?

## *Да таямніц прэзідэнцтва Лукашэнкі дадалася яшчэ адна —неверагодная адстаўка міністра абароны Леаніда Мальцава*



Па афіцыйнай версіі міністр абароны быў адпраўлены ў адстаўку пасля *«ўчынку, не сумяшчальнага з гонарам афіцэра»*. Учынак заключаўся ў тым, што 1 лістапада падчас урачыстага паседжання, прысвечанага 75-годдзю Мінскага медыцынскага інстытута, Мальцаў выйшаў да мікрафона нібыта ў нецвярозым стане і быў выведзены з залы ахоўнікамі прэзідэнта. Лукашэнка тут жа публічна заявіў, што адпраўляе міністра ў адстаўку.

Між тым відавочна, што гэтую падзею нельга адддзяліць ад ранейшых фактаў. Па-першае, ад асобы самога Мальцава, ягоных звычак і паводзінаў на пасадзе кіраўніка веннага ведамства; па-другое — ад упартых чутак пра магчымую адстаўку міністра, якія цыркулявалі ў апошні месяц. Як сцвярджаюць тыя, хто добра ведае Мальцава, генерал зусім не вызначаўся схільнасцю да гарэлкі, хаця і мог у адпаведных умовах падтрымаць кампанію. Аднак у прысутнасці вышэйшых асобаў Мальцаў ніколі не дазваляў сабе лішку. Ва ўсякім разе, паводле назіранняў дасведчаных людзей, у кампаніі з Лукашэнкам Мальцаў ніколі не піў больш, чым прэзідэнт. Дзіўна: няўжо 1 лістапада, знаходзячыся ў складзе ганаровага прэзідыума ў МДМІ, Леанід Мальцаў настолькі пераацаніў свае сілы, што адважыўся выступаць, хаця быў ужо значна «пад шафэ»? Чаму ён не адмовіўся ад выступлення, чаму увогуле не пакінуў залу, спаслаўшыся на недамаганне? — пытаюцца цяпер афіцэры з атачэння былога міністра.

Аднак яшчэ істотней будзе высветліць, ці сапраўды Мальцава ўжо збіраліся адправіць у адстаўку. У адной з кастрычніцкіх публікацый «Белорусской деловой газеты» гэтая магчымасць разглядалася як амаль стопрацэнтная. Спасылкі рабіліся на дасведчаныя крыніцы, згодна з якімі Мальцаву ўжо актыўна шукаецца замена (называліся кандыдатуры начштаба Чумакова, камандуючага пагранвойскамі Паўлоўскага ды былога каменданта Вільні генерала Усхопчыка). Цікава, што на гэтую публікацыю міністэрства абароны і прэс-служба публічна ніяк не адрэагавалі. Калі ж на «ўсебеларускім сходзе» прэзідэнт выказаў некалькі кампліментаў у бок міністэрства, Мальцаў і ўвогуле, відаць, расслабіўся. Ён, пэўна, вырашыў, што можна ўжо забыць пра той выпадак, калі прэзідэнт, даведаўшыся пра нефармальныя сустрэчы Мальцава з Карпенкам і Шарэцкім, пагражаў міністру звальненнем. *«Лукашэнка мяне падтрымлівае, хаця грошы сапраўды не дае»*, — гэтак ён адказаў на заўвагі былога калегі, які раіў яму больш рашуча паставіць пытанне аб недастатковым фінансаванні войска.

«Падтрымка» скончылася публічнай лупцоўкай і знявагай. Генералу асабіста і ўсім вайскоўцам разам. Ды і ўвогуле інцыдэнт з Мальцавым ударыў па аўтарытэце любога кіраўніка. «Раней такога не было! — сцвярджаюць вопытныя наменклатуршчыкі. — Калі нехта аказваўся ў нецвярозым стане на людзях, яго ціхенька выводзілі, а потым «разбіраліся» за зачыненымі дзвярыма». Але тое было раней. Цяпер прэзідэнт уводзіць новы стыль абыходжання з усімі без выключэння кіраўнікамі як з патэнцыяльнымі казнакрадамі і алкаголікамі. Ён фактычна папярэджвае, што не проста будзе адпраўляць у адстаўку, але і «размажа» чалавека так, каб яму не тое што ў апазіцыю, але і дамоў пайсці было сорамна.

Калі ўзяць гэтую версію за сапраўдную, то нельга выключаць магчымасць таго, што Мальцаву «дапамаглі» стаць нецвярозым. Зрабіць такі трук было няцяжка — падсунуць міністру «спецыяльны кілішак» у пакоі для гасцей ці падаць яму асабістую шклянку «мінералкі» ў прэзідыуме. Усё астатняе (гнеўная прамова прэзідэнта, ягоны ўказ, рэзананс тэлебачання) — справа тэхнікі.

Немагчыма не звярнуць увагі і на палітычныя вынікі адстаўкі. Па-першае, Лукашэнка зрабіў удалы папуліцкі ход, які ўздзейнічае на ягоны электарат — зняў чарговага кіраўніка, які праштрафіўся. Асабліва такі «акт ачышчэння» павінен спрацаваць напярэдадні рэферэндуму. Па-другое, сярод сённяшніх «сілавікоў» Мальцаў заставаўся адзіным міністрам, пра якога можна было з упэўненасцю сказаць: гэты чалавек займае сваю пазіцыю, ён ніколі не пашле войскі супраць народа. Зняўшы Мальцава, Лукашэнка поўнасцю забяспечыў свае тылы на выпадак абвастрэння сітуацыі ў краіне. І галоўнае, прэзідэнт канчаткова паставіў на калені «вертыкаль». Тое, што яна смяротна запалоханая, было добра бачна хаця б падчас цырымоніі ўскладання кветак на Дзяды: нават прэм'ер Чыгір і ўся астатняя прэзідэнцкая світа не дазвалялі сабе наблізіцца да Лукашэнкі бліжэй за некалькі крокаў, хавалі вочы і трымаліся ззаду.

Па нашых звестках, у панядзелак раніцай Леанід Мальцаў наведаў свой кабінет у міністэрстве абароны і развітаўся з былымі падначаленымі. Як сцвярджаюць сведкі, былы міністр падзякаваў бадзёрым голасам падзякаваў усім за сумесную працу і выказаў упэўненасць, што ягоныя напрацоўкі па вайсковай рэформе будуць запатрабаваныя.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

# Цэнтрвыбаркам сваё зрабіў

## Слова — за парламентам

*«Рэферэндум павінен адбыцца, і ён адбудзецца ў законны тэрмін — 24 лістапада»,* — заявіў старшыня Цэнтральнай выбарчай камісіі Віктар Ганчар на прэс-канферэнцыі 31 кастрычніка.

В.Ганчар правёў прэс-канферэнцыю адразу пасля паседжання ЦВК, дзе абмяркоўваліся праблемы правядзення рэферэндуму і давыбараў у Вярхоўны Савет. Старшыня ЦВК адзначыў, што нарэшце ўдалося дасягнуць пэўнага ўзаемаразумення з выканаўчай уладай. У прыватнасці, будуць ліквідаваныя дублюючыя «выбарчыя камісіі» на месцах, якія былі створаныя «вертыкаллю» ў абход закона. Удалося зрушыць з месца і пытанні фінансавання плебісцыту і давыбараў. Праўда, як заўважыў В.Ганчар, пакуль адміністрацыя прэзідэнта толькі абяцае выдзеліць грошы, але і гэта ўжо крок наперад. Па словах старшыні ЦВК, для правядзення рэферэндуму і давыбараў у саветы розных узроўняў спатрэбіцца 12 млрд. рублёў з бюджэту. Астатняя сума, лічыць ён, можа быць выкарыстаная з так званых «добраахвотных ахвяраванняў».

Канчатковы варыянт тэксту бюлетэня ўсенароднага галасавання будзе зацверджаны Цэнтрвыбаркамам сёння, 5 лістапада, пасля 18 гадзін. Менавіта сёння дэпутаты Вярхоўнага Савета павінны канчаткова вырашыць, якія пытанні выносіць на ўсенароднае галасаванне. Калі ж парламентарыі не прыйдуць да агульнага рашэння, то, адзначыў Ганчар, ЦВК сапраўды апынецца ў цяжкім становішчы: рэферэндум і давыбары цесна ўзаемазвязаныя, бо іх павінны праводзіць адначасова тыя самыя выбарчыя камісіі.

Старшыня ЦВК зрабіў асобны акцэнт на давыбарах. Ён паведаміў, што па 60 выбарчых акругах зарэгістравана 253 кандыдаты ў дэпутаты; сярод іх 27 жанчын, 10 кандыдатаў ва ўзросце да 30 гадоў. Партыя камуністаў вылучыла сваіх прадстаўнікоў больш за іншых — 42 кандыдаты, БНФ — 39, філія партыі Жырыноўскага — 28, АГП — 26, Партыя народнай згоды — 16, Грамада — 12 кандыдатаў.

Самая вострая барацьба за месцы ў парламенце разгорнецца ў Мінску, дзе балатуюцца 132 кандыдаты па 23 акругах. Напрыклад, у Пушкінскай выбарчай акрузе № 252 за дэпутацкія мандаты будуць змагацца 9 чалавек. Столькі ж кандыдатаў зарэгістравана і ў Кастрычніцкай выбарчай акрузе № 237, 8 чалавек спадзяюцца стаць дэпутатамі ў Грушаўскай выбарчай акрузе № 231.

В.Ганчар афарыстычна выказаўся, што гэтым разам для кандыдатаў настаў перыяд «політической благодати». *«Выбары ў першым і другім турах галасавання будуць лічыцца адбыўшыміся, калі ў іх возьмуць удзел звыш 25% выбаршчыкаў ад агульнай колькасці ўнесеных у спісы для галасавання»,* — патлумачыў старшыня ЦВК і нагадаў, што менавіта такое тлумачэнне закона аб выбарах пацвердзіў Канстытуцыйны суд.

Віктар Ганчар паведаміў, што дасягнутая дамоўленасць з кіраўніцтвам Белтэлерадыёкампаніі аб асвятленні па тэлебачанні і радыё альтэрнатыўных меркаванняў па рэферэндуме, а таксама ўзгодненае прадастаўленне эфіру для кандыдатаў у дэпутаты.

Па словах В.Ганчара, ужо 9 лістапада выбарчыя ўчасткі павінны прыняць першых выбаршчыкаў, якія па пэўных прычынах вымушаныя прагаласаваць датэрмінова. Участковыя камісіі атрымалі адпаведныя ўказанні, а ЦВК зробіць усё, каб надрукаваць да гэтай даты бюлетэні з пытаннямі рэферэндуму, сказаў Ганчар.

**Віктар ВАЛАДАШЧУК**

ДЗЯДЫ – 96

# Курапацкая мяжа. Дзе яна?

*«Мы пешшу прайшлі да Курапатаў, каб ніколі ў гісторыі Беларусі не паўтарыўся той шматпакутны шлях, якім тут скончыліся жыцці тысячаў нашых суайчыннікаў».*

Гэтыя словы Лявона Баршчэўскага, сказаныя ім пасля заканчэння шэсця ля Курапацкага крыжа, можна лічыць эпіграфам да ўсіх падзеяў 2 лістапада ў Мінску.



На здымку: 2 лістапада ад удзельнікаў шэсця ў Курапаты найбольш пільна і масава міліцыя ахоўвала будынак КДБ.

Удзельнікі шэсця, сабраўшыся на плошчы Незалежнасці ля Чырвонага касцёла, прайшлі жалобнай калонай пад бел-чырвона-белымі сцягамі праз увесь горад. У шэсці прыняло ўдзел ад 3 да 5 тысяч чалавек; але калі ўлічыць, што шмат хто прайшоў ад пачатку не ўвесь маршрут ці далучыўся да калоны ў сярэдзіне ці напрыканцы, то можна пагадзіцца з названай арганізатарамі лічбай — 8 тысяч удзельнікаў. Пры гэтым варта адзначыць, што большасць удзельнікаў шэсця складала моладзь. Уздоўж усяго маршруту ўскладаліся кветкі да помнікаў, пачынаючы ад надаўна ўсталяванага помніка ахвярам таталітарызму і абеліска мінскім падпольшчыкам побач з Чырвоным касцёлам, потым да самаробнай каплічкі пад мурамі будынка КДБ і далей ва ўсіх памятных месцах аж но да Курапатаў, дзе ўдзельнікі запалілі сотні свечак у памяць ахвяраў камунізму.

Мітынг у Курапатах не праводзіўся, ды і не планаваўся. Толькі з невялікай прамовай выступіў Лявон Баршчэўскі, які ад імя арганізатараў (БНФ) падзякаваў усіх за арганізаванасць і дысцыпліну. А потым, ушанаваўшы памяць загінуўшых хвілінай маўчання, людзі ціха спявалі жалобныя песні, вялі нясмешныя размовы-успаміны. Канешне, не абышлося і без дыскусіяў на актуальныя палітычныя тэмы. Больш за іншых палітыкаў, якія ўдзельнічалі ў жалобнай цырымоніі, давялося адказваць на пытанні Станіславу Багданкевічу, Генадзю Карпенку, Юрыю Хадыку, Юрыю Захаранку, Лявону Баршчэўскаму.

У «Панараме» Беларускае тэлебачанне падало гэтыя размовы як «намаганні» лідэраў апазіцыі раскалоць грамадства. Маўляў, яны і ў такі святы дзень не ўстрымаліся ад свайго. Тым часам пра сапраўднае кашчунства «чэсныя» журналісты ні слова не сказалі. Чамусьці ніхто з іх не паехаў пасля жалобнага мітынгу да таго ж КДБ, дзе была ўсталявана чорная драўляная каплічка, і не пацікавіўся, што сталася з ёю. Сцвярджаю: у 18 гадзінаў вечара (можа, і раней) каплічкі ўжо не было. Як не было свечак і шыльдаў з імёнамі закатаваных людзей. А кветкі, якіх там паклалі многія сотні, валяліся пад сцяной у бруднай кучы смецця. Няўжо гэта зрабілі ўдзельнікі шэсця ці звычайныя прахожыя, якія, што добра вядома, дагэтуль ходзяць побач з КДБ амаль што на дыбачках? Ці можаце вы сабе ўявіць, што гэтак жа абышліся б з кветкамі, якія ў той жа дзень з каменным тварам ускладаў ля помніка Перамогі і на Маскоўскіх могілках прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка? (У Курапаты, між іншым, ён так і не даехаў.) Вось вам прыклад адносінаў улады да сваіх кветак і да кветак, так бы мовіць, неафіцыйных. Ці не тут праходзіць мяжа, што сапраўды падзяліла грамадства і калісьці ўжо прывяла ў Курапаты?

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

# Пікет на плошчы Свабоды

Калектыў забароненага «Радыё 101.2» разам з Беларускай асацыяцыяй журналістаў праводзіць сёння, 5 лістапада, пікетаванне на плошчы Свабоды ў Мінску. Арганізатары акцыі, якая будзе праходзіць з 9:00 да 11:00 і з 16:00 да 18:00, патрабуюць неадкладнага вяртання ў эфір «Радыё 101.2» і забеспячэння свабоды слова ў Беларусі.

**З.Н.**

# Новая абяцанка: танныя лекі

На мінулым тыдні міністр аховы здароўя Інэса Драбышэўская на прэс-канферэнцыі абвясціла, што пастановай Кабінета міністраў з 1 лістапада на 5% зніжаюцца аптовыя гандлёвыя нацэнкі на медыкаменты і на 10% — пры продажы лекаў у розніцу.

Эксперты бачаць у гэтым чарговы папулісцкі жэст уладаў напярэдадні рэферэндуму. Фактычна зніжэнне цэн закранула толькі 30 аптэк дзяржаўнага аб'яднання «Фармацыя» ў Мінску. Большасць аптэк з'яўляюцца прыватнымі або арэндным прадпрыемствамі і ўстанаўліваюць цэны зыходзячы з рэальнай сітуацыі на рынку медыкаментаў.

**Вераніка СТРОЕВА**

# Партыя для тых, каму за 60

2 лістапада ў Мінску на свет з'явілася прапрэзідэнцкая «Коммунистическая партия Белоруссии».

Устаноўчы сход, у якім удзельнічала 443 дэлегаты, зацвердзіў часовы статут партыі, праграмную заяву, а таксама прыняў рэзалюцыю з патрабаваннем вызваліць з турмаў Латвіі і Літвы камуністаў Рубікса, Буракявічуса і Ермалавічуса. У кіраўніцтва КПБ выбралі 20 чалавек, сярод іх — С.Посахаў, В.Чыкін, І.Асінскі.

Паказальна, што 59,5% дэлегатаў, якія ўдзельнічалі ва ўстаноўчым сходзе, узростам старэйшыя за 60 гадоў.

**Раман ЮРЭВІЧ**

# Прэзідэнцкая канстытуцыя: усё для чалавека

## І мы ведаем гэтага чалавека

**Процістаянне Лукашэнкі і Вярхоўнага Савета апошнія месяцы нагадвае пінг-понг: мячык — налева, мячык — направа. Калі не адкажаш на ўдар саперніка сваім ударам — паражэнне, выбіццё з гульні на няпэўны тэрмін.**

30 кастрычніка прэзідэнт перадаў у Вярхоўны Савет новы тэкст паправак у Канстытуцыю. Адэкватны адказ парламента рыхтаваўся загадзя і не прымусіў сябе доўга чакаць: ужо на наступны дзень група дэпутатаў на чале з фракцыяй камуністаў прадставіла новы варыянт сваіх дапаўненняў у Канстытуцыю.

Такім чынам, мы зноў маем фармальна два новыя праекты, якія патрабуюць «усенароднага абмеркавання». Аднак фактычна новым можна назваць толькі дэпутацкі варыянт, паколькі Лукашэнка пасля ўсіх сваіх сходаў, хуралаў, абяцанкаў у выніку амаль нічога не змяніў. *«У гэтым праекце гнілі стала яшчэ больш»,* — заявіў карэспандэнту СВАБОДЫ Анатоль Лябедзька, узгадваючы вядомыя словы Валерыя Ціхіні пра «гнілую сарцавіну».

*«Гэтак званае ўсенароднае абмеркаванне завяршылася нулявым вынікам. Другі праект прынцыпова не адрозніваецца ад першага, у яго ўнесены літаральна некалькі зменаў, якія толькі пагаршаюць стан гэтага дакумента»,* — гаворыць Лябедзька. У прыватнасці, ён звяртае ўвагу на папраўку, паводле якой любыя дзейнні, накіраваныя на змену канстытуцыйнага ладу, караюцца законам. Атрымліваецца, што любы орган (нават парламент), які паспрабуе змяніць новую Канстытуцыю, загадзя будзе лічыцца парушальнікам заканадаўства.

Ужо амаль легендарнай стала папраўка ў 5-ты артыкул дзеючай Канстытуцыі, дзе забараняецца стварэнне арганізацый, якія вядуць прапаганду *«...нацыянальнай, рэлігійнай і расавай варожасці».* Лукашэнка прапануе ў гэты пералік уставіць слова *«сацыяльнай».* Калі народ падтрымае такі юрыдычны шэдэўр, то пад абвінавачванне ў «сацыяльнай варожасці» можна будзе падвесці дзейнасць прафсаюзаў, якія абараняюць інтарэсы аднаго класа ці сацыяльнай групы. Сяргей Калякін лічыць, што такая фармулёўка можа стаць падставай для забароны кампартыі, якая прызнае класавую барацьбу.

У канчатковым варыянце лукашэнкаўскага праекта прэзідэнт па-ранейшаму ўсіх здымае і ўсіх прызначае, «уведамляючы» пра гэта Савет Рэспублікі (так замест Сената прапануецца называць верхнюю палату парламента). Аднак, «параіўшыся з народам», Лукашэнка ўбачыў, што яшчэ засталіся структуры, якія па нейкай недарэчнасці не патрапілі ў першым варыянце пад яго ўсепаглынальныя паўнамоцтвы. Памылка была выпраўлена — у праект дабаўленыя дзве новыя папраўкі: прэзідэнт цяпер вызваляе ад пасады старшыню і членаў Цэнтрвыбаркама і прызначае і вызваляе з пасадаў вышэйшае камандаванне Узброеных Сіл. Здаецца, усё. Цяпер Лукашэнка нікога не забыў, нікога не пакінуў па-за сваёй увагай.

У адрозненні ад Лукашэнкі, дэпутаты ўнеслі сапраўды кардынальныя змены ў свой праект Канстытуцыі. Па-першае, там з'явіўся інстытут прэзідэнцтва. Менавіта адсутнасць гэтай пасады і была асноўным аргументам у прапагандзе супраць дэпутацкага праекта. І гэты аргумент, трэба прызнаць, быў даволі важкі для большасці нашага насельніцтва, якая падтрымлівае ідэю моцнай улады. Нягледзячы на ўсю сваю непераадольную любоў да лозунгу «ўся ўлада — Саветам», камуністы адчулі сучасныя настроі і вырашылі ўвесці ў свой праект інстытут прэзідэнцтва.

Аднак гэта зусім не той імператар, які бесперашкодна ўладарыць у лукашэнкаўскім праекце. Парламенцкі варыянт прадугледжвае, што прэзідэнт выбіраецца Вярхоўным Саветам пры атрыманні двух трацей дэпутацкіх галасоў. Такім чынам, выбраны варыянт, блізкі да нямецкага, венгерскага, латышскага і эстонскага. Дарэчы, такі падыход амаль гарантавана пазбягае ад рэзкіх канфліктаў паміж заканадаўчай і выканаўчай уладамі. Калі атрымаўшая перамогу на парламенцкіх выбарах палітычная сіла выбірае «свайго» прэзідэнта — навошта дэпутатам з ім канфліктаваць?

Рэальная ўлада ў дэпутацкім праекце Канстытуцыі належыць Вярхоўнаму Савету, які складаецца з 260 дэпутатаў і з'яўляецца вышэйшым прадстаўнічым і адзіным заканадаўчым органам дзяржаўнай улады. Парламент прымае Канстытуцыю і законы, прызначае рэферэндумы і выбары, старшыню Савета міністраў і ўрад, абірае Канстытуцыйны, Вярхоўны і Вышэйшы гаспадарчы суды, старшыню і членаў праўлення Нацыянальнага банка. Кіраўніку ўрада пераходзяць асноўныя функцыі выканаўча-распарадчай улады. Можна пагадзіцца з лідэрам камуністаў Сяргеем Калякіным, які заяўляе, што гэты праект ужо нельга лічыць новым праектам Канстытуцыі — гэта менавіта папраўкі і дапаўненні ў існуючы Асноўны Закон.

Такім чынам, прэзідэнцкая прапагандысцкая машына пастаўлена ў даволі няёмкую сітуацыю. Напэўна, ёй давядзецца тлумачыць людзям, што прэзідэнт у дэпутацкім варыянце вельмі слабы, бутафорскі — аднак любая палеміка ў той ці іншай форме рэкламуе парламенцкі праект Канстытуцыі. Многія выбаршчыкі, недасведчаныя ў палітычнай фразеалогіі, зразумеюць толькі адно: аказваецца, у дэпутацкім варыянце таксама ёсць пасада прэзідэнта! Адно гэта можна лічыць удалай падачай у беларускай партыі палітычнага тэнісу.

**Віталь ЦЫГАНКОЎ**

СВАБОДА
5 лістапада 1996 г., № 84

# Вся президентская рать

***Вглядитесь в лица многих из ближайшего окружения президента… Разве можно найти в них белорусскую доброту, открытость, взвешенность, стремление помочь ближнему?..***

**С.Шарецкий**

Александр Лукашенко, скорее всего, не знаком с замечательным высказыванием своего американского коллеги — президента Линдона Джонсона, который однажды сказал приблизительно следующее: *«Мне нужны не просто преданные люди, а особо преданные, которые не просто целовали бы меня в зад, но при этом еще и говорили: пахнет, как роза»*. Грубовато, но от души.

В бытность кандидатом в президенты Лукашенко весьма удачно использовал слоган рекламного типа: *«Я и моя молодая команда»*. И действительно, если он сам не только у интеллектуальной, но и у более или менее образованной и думающей публики вызывал лишь, мягко выражаясь, недоуменное пожимание плечами: *«Кто? Этот? Куда? В президенты? Шутите...»*, то для этой самой думающей публики именно интеллектуальное окружение шкловского директора совхоза порождало сомнения: видимо, все-таки есть в нем что-то этакое, раз рядом такие люди, как блестящий юрист Дмитрий Булахов, в 30 лет возглавивший самую заметную и престижную парламентскую комиссию по законодательству; не менее яркий и столь же молодой юрист, «белорусский Собчак» Виктор Гончар; скромный и уважаемый среди журналистов и коллег-депутатов Леонид Синицын; острый на язык генератор идей Анатолий Лебедько, 40-летний полковник милиции Юрий Захаренко, высоко ценимый в среде профессионалов.

«Молодая команда» производила впечатление даже на скептиков. Особенно в сравнении с компанией главного конкурента, изрядно надоевшего премьера Кебича.

После победы Лукашенко на президентских выборах все члены «молодой команды» если не получили (как, например, Д.Булахов) высоких должностей, то все же оказались как будто на первых ролях. Однако помимо членов команды в правительство вошли (едва ли не в полном составе) печально известные соратники бедняги Кебича, блистательно провалившие избирательную кампанию шефа. Да-да, опять тот же неразлучный унылый дуэт Линг—Мясникович был призван опекать несчастную белорусскую экономику. Опять информационную политику формирует тот же полковник Заметалин, еще полгода назад, в разгар предвыборной кампании, известивший избирателей о том, как лысый Лукашенко украл конфеты и фен у доверчивой стюардессы. Опять понадобился демагогический талант (доктор философских наук!) Ивана Антоновича, переброшенного на укрепление рядов космополитичного МИДа. Позже появилась нужда в более мелкой рыбешке типа Акулова, Скобелева и прочей публики.

Аппаратчики со стажем постепенно оттеснили от Лукашенко своих неискушенных во властных интригах коллег. Представители «молодой команды» один за одним, чаще со скандалом, начали уходить от президента. Побудительные мотивы, у всех разные, по большому счету базировались на единых основах — не захотели смотреть в рот Лукашенко, поддакивать, принимать участие в беззакониях, восторженно одобрять бесконечные безобразия президента. Ушли люди с развитым чувством собственного достоинства, не услышавшие запах розы там, где присутствует лишь один естественный природный запах.

Особняком в этом кругу стоит отряд бойцов юридической службы президента. Поскольку Лукашенко и право — это вещи совершенно несовместимые (подобно льду и пламени), положение чиновников от права завидным никак не назовешь. Оттого и позариться на оное в состоянии лишь личности весьма специфические. Например, профессор А. В свое время его приглашали баллотироваться в состав Конституционного суда, но поскольку конституционные ограничения по возрасту (60 лет) не давали возможности отработать весь положенный 11-летний срок, предусмотрительно отказался. Зато спустя некоторое время, попав в администрацию президента, этот профессор потряс юридическую общественность заявлением о существовании в цивилизованном мире теории «правовых» и «неправовых» законов, последние из которых можно безнаказанно игнорировать. Разумеется, таковые в избытке имеются и в Беларуси, и поэтому президенту, избранному народом, не исполнять их не только можно, но и должно. А тот, кто вздумает руководствоваться подобными «плохими» законами, а не «хорошими» указами Лукашенко — пусть заслуженно получает президентскую опалу.

Подготовив с сотрудниками длинный ответ на ежегодное послание Конституционого суда, профессор А. обвинил депутатов «старого» Верховного Совета в плохом отношении к заслуженным людям, из-за возрастной планки в 60 лет не попавшим в КС. Возможно, господин А. просто не знал или забыл о том, что это бывший депутат Лукашенко во время дебатов по вопросу возрастного ценза для судей, встав со своего места, громким голосом бывшего замполита провозгласил: *«Мужики! Вы что? Какие 70 лет?! Что, для них (судей) КЗоТа нету? Хватит и 60 лет»*. После чего «мужики» дружно и проголосовали. Еще профессор А. отличается высоко чтимой сегодня в окружении Лукашенко способностью с чистыми глазами (правда, без задора) оправдывать самые абсурдные с юридической точки зрения шаги президента — от указов до знаменитых «поправок» к Конституции.

Еще один — профессор С., занявший место Лебедько в парламенте в качестве представителя президента, прославился удивительной способностью мирно спать на всех заседаниях и совещаниях. Человек он, в общем-то, не вредный, спит себе теперь в Овальном зале, никому не мешает.

Презабавная фигура — доцент Л. Как-то в одной милой компании у него спросили: *«Как ты там (в администрации) теперь работаешь, ведь недавно же говорил совсем другое?»* Ответ Л. был предельно прост: *«Мало ли что раньше говорил. Там мне деньги платят, и платят хорошо, вот я и служу»*.

Крайне интересный тип — молодой да ранний чиновник П. Он, в отличие от абсолютного большинства коллег, может и Бабеля от Бебеля отличить, но мучает П. герострaтов комплекс — славы хочется, большой и настоящей. Причем — немедленно. Не успел его шеф отбыть в отпуск, как этот П. развернулся во всю мощь, выступив пару раз по ТВ и дав несколько таких абсурдных газетных интервью, что даже получил за излишнее усердие служебный нагоняй. А недавно доцент П. опять потряс общественность, заявив о том, что, оказывается, председатель Верховного Совета С.Шарецкий избран на свой пост незаконно и, следовательно, у нашего парламента сейчас нет председателя. Несмотря на молодой возраст, П. прекрасно усвоил суть успешной карьеры при нынешнем режиме: главное — в нужный момент угадать и исполнить сокровенные желания «батьки». Вот не понравилась тому Конституция — тут же надо выступить и поюродствовать над подписью экс-спикера М.Гриба в конце Основного Закона, начинающегося фразой «Мы, народ Беларуси...». И не важно, что такова общемировая практика (П. об этом прекрасно известно!) — начинающиеся подобными словами конституции всегда подписываются теми людьми, кто их создавал либо возглавлял конституционную комиссию или орган, принимающий ее. Просто кому-то очень хочется видеть под другой конституцией другую подпись — А.Лукашенко.

А вот кандидат юридических наук Б. год назад явно перестарался, защищая очередной указ президента, после чего на ТВ его не пускали. Зато весь многогранный талант Б. понадобился сегодня в деле пропаганды нового референдума. И этот Б. не подкачал — на страницах придворных газет привычно великолепен и убедителен для непосвященных. Не важно, что при помощи референдумов принимались конституции Чили в период военного положения, а также Гаити и других одиозных режимов — обывателю ведь сии факты не известны, как и то, что подавляющее большинство конституций демократических стран (американская, немецкая, итальянская, японская и еще более сотни других) принимались без референдумов.

Есть еще один Б., еще не кандидат юридических наук, но тоже юрист. Личность совершенно уникальная. Несколько раз изгонялся с разных государственных должностей, и все за поступки, граничащие с преступлениями. Но последний раз этот Б. превзошел сам себя — подделал удостоверение «чернобыльского ликвидатора», да как! Какой-то «земляк» за бутылку в «неустановленной типографии» отпечатал единственное в своем роде удостоверение, предоставляющее владельцу совершенно невообразимые льготы, каких не было и нет ни у одного настоящего ликвидатора в Беларуси. Пожадничал, увлекся наверное... Зловредная инспекторша «по кадрам», когда Б. пришел получать льготы, почуяла неладное и подняла шум. Ну и что? Ничего... С той работы ушел. И нашел новую. Где? Правильно — в администрации президента. Там нужны люди неординарные, с фантазией, способные творчески «обмыслить» любую юридическую задачу.

Любопытные экземпляры — профессора Т. и Ш., два специалиста — «общественника». Именно так они представились, отвечая на назойливые вопросы журналистов о своем статусе на недавней пресс-конференции. Авторство проекта лукашенковской конституции признавать за собой не хотели, видимо, боялись: чем черт не шутит, вдруг не пройдет?.. Странный народ: писать такое не боятся, не могут отказаться — так воспитаны. А об авторстве не хотят говорить. Все-таки еще стыдно хотя бы самую малость. Однако ни на один вопрос прессы «общественники» не смогли толком ответить: то мычали и краснели, то пускались в демагогические сличи по десять минут. Не готовы пока по личным качествам в штат попасть, вот и ходят до сих пор в «общественниках».

Государственными проблемами занимается практически весь «обслуживающий персонал» всенародноизбранного. Вот, к примеру, полковник запаса П. Он вроде бы и не юрист, а всего лишь отставной советский политработник, но участвует практически во всех «круглых столах», конференциях, симпозиумах по правовым проблемам. На вопросы отвечает исходя не из буквы, а уж точно, что из «духа», только не закона, а сами догадайтесь, какого «духа». Вот, радиослушатель спросил П.: почему, мол, не исполняются решения Конституционного суда, в частности, решение об отмене положений, ограничивающих права граждан на покупку квартир и домов. Не задумываясь, П. ответил: *«не исполняются, потому что такова воля народа...»*. Чья это на самом деле воля — также догадайтесь сами.

Впечатляющей получилась галерея «садоводов», так сказать «ботаников по призванию», не правда ли? Одни красавцы, обладающие специфически неразвитым моральным обонянием, которое, видимо, является природным даром. Других «батьке» и не надо, знает, кого выбирает. Их не тревожит собственное будущее, и абсолютно обоснованно. Ну, сменится режим, начнутся расследования, кто чем занимался, чего говорил и подписывал — подумаешь, испугали. Все это — пшик, и ничего более. Ну, коллеги руку не подадут, в прессе фамилии пополощут, но диплома-то не лишат (хоть такое служение такому режиму для юристов сродни нарушению клятвы Гиппократа для врачей, за что, сами знаете, как приходится отвечать). Добрый народ белорусский, отходчивый, все простит. Ведь и пострашнее вещи бывали — прощалось. Да и мерзавцы-то с юридическим образованием, увы, востребовались всегда, независимо от характера политического режима. Не обойтись без оных ни одному правителю, пусть он трижды демократ. Спрос на услуги «правоведов» без признаков совести неистребим, заслон против него — закон о люстрации.

А юристам, подобным вышеперечисленным, следует помнить, что после знаменитого Нюрнбергского процесса над главарями нацистской Германии был еще и «Нюрнберг-2», где перед трибуналом предстали судьи, работавшие в Третьем рейхе. Так ведь и в Беларуси времена тоже могут измениться.

**Дмитрий ВЛОДИН**

*ВЫБАРЫ Ў ЗША*

## Хай будзе так, як ёсць

**Сёння, 5 лістапада, грамадзяне Злучаных Штатаў Амерыкі выбіраюць прэзідэнта.**

Дакладней было б сказаць нават так: амерыканцы выбіраюць на другі прэзідэнцкі тэрмін кандыдата ад Дэмакратычнай партыі Біла Клінтана.

Перадвыбарчыя даследаванні грамадскай думкі адназначна засведчылі, што рэспубліканец Боб Доўл, як выказаўся адзін амерыканскі журналіст, мае на прэзідэнцтва такія ж шанцы, як Гаіці на перамогу ў чэмпіянаце свету па футболе. Гэта значыць — ніякіх. Паводле розных рэйтынгаў, Клінтан апярэджвае Доўла на 13—17 пунктаў. І няма ніякіх падставаў думаць, што, прыйшоўшы на выбарчыя ўчасткі, амерыканцы раптам перадумаюць.

З часоў гучнага Уотэргейтскага скандалу амерыканцы нібы пагадзіліся з фактам, што палітыкі зусім не ўяўляюць сабою ўзор станоўчых якасцяў. Таму ўсе абвінавачванні, якія выказваў Боб Доўл на адрас Клінтана, прайшлі міма вушэй выбаршчыкаў. Іх не ўразіла ні тое, што сям'я Клінтанаў спекулявала нерухомасцю ў Арканзасе, ні паведамленні, што (магчыма) выбарчую кампанію Клінтана фінансавала прамысловае лобі з Інданезіі і Карэі, ні шырока публікаванае ў прэсе фота, на якім Хілары Клінтан і віцэ-прэзідэнт Гор стаяць побач з гандляром наркотыкамі з Фларыды. Выбаршчыкі ведаюць іншае: апошнія чатыры гады назіраецца эканамічны рост, зніжаецца беспрацоўе, інфляцыя невысокая, створана каля 10 млн. рабочых месцаў, прайшла рэформа аховы здароўя. Гэта — факты, і сярэдняга амерыканца зноў-такі не цікавіць, што большасць новастворaных месцаў працы занялі людзі, якія і так недзе ўжо працавалі за мізэрную па амерыканскіх мерках плату, а больш за 30 млн. жыхароў ЗША па-ранейшаму не маюць медычнай апекі. Сытыя амерыканцы не асабліва праймаюцца лёсам беднякоў — і чорных, і жоўтых, і іспанамоўных.

Сёння Амерыка выбірае *status quo*, а прапанаваныя Клінтанам рэформы, накшталт удасканалення школьнай формы або прадаўжэння бясплатнага ўтрымання ў шпіталі пасля родаў, — ствараюць дастаткова моцную ілюзію прагрэсу.

Зрэшты, Боб Доўл не змог прапанаваць выбаршчыкам нічога істотнага, акрамя 15-працэнтнага зніжэння падаткаў. Яму не ўдалося пераканаць, што такое магчыма без павелічэння бюджэтнага дэфіцыту і скарачэння сацыяльных праграм. Зніжэнне падаткаў ужо абяцаў Рэйган — і нічога добрага не атрымалася. Лепш заплаціць на 15% больш, але няхай будзе *status quo*, вырашаюць амерыканцы.

З прэзідэнцкімі выбарамі, здаецца, усё ясна. А вось за месцы ў парламенце — барацьба сапраўды вострая. Рэспубліканская партыя спадзяецца ўтрымаць большасць у Кангрэсе, якую яны здабылі ў 1994 г. Аднак ім моцна папсаваў карты іхні лідэр Боб Доўл — сваёй невыразнай, млявай, безнадзейнай кампаніяй. У апошнія тыдні вybітныя палітыкі-рэспубліканцы ігнаравалі сустрэчы Доўла з выбаршчыкамі: навошта лішні раз паказвацца на людзях з тым, хто адназначна прайграе? І ўсё ж, калі верыць апытанням, рэспубліканцы хутчэй за ўсё захаваюць перавагу ў Кангрэсе, а ў Сенаце — амаль напэўна. А гэта значыць, што на працягу наступных чатырох год будуць пастаянна паўставаць пытанні злоўжыванняў Біла і Хілары. Ізноў успомніцца «Уайтўотэр» — махінацыі з нерухомасцю, і «Файлгейт» — выкарыстанне адміністрацыяй Клінтана сакрэтных папак ФБР супраць рэспубліканцаў, і цьмяная асоба К.Лівінгстоўна — наркамана і дыскатэчнага выкідалы, які раптам стаў дарадцам Клінтана. Але да ўсяго гэтага, як і да многага іншага, амерыканцам не прывыкаць — яны галасуюць за *status quo*.

**Магдалена НЕПАКАЙ**

*СТАТИСТИКА*

## Сколько газет идет в макулатуру?

Эти сведения, которые были опубликованы в «Белорусской деловой газете» (№ 70 от 31 октября), убедительно показывают, что СВАБОДА пользуется устойчивым читательским спросом.

**Списание нереализованного тиража**

| | май,% | июнь,% | июль,% | август,% |
|---|---|---|---|---|
| 1. СВАБОДА | 3.76 | 3.23 | 3.26 | 1.94 |
| 2. Чырвоная змена | 62.66 | 58.94 | 61.05 | 55.47 |
| 3. Белорусская нива | 46.84 | 46.78 | 47.30 | 41.56 |
| 4. Звязда | 25.07 | 21.49 | 22.73 | 23.91 |
| 5. Знамя юности | 23.79 | 17.92 | 19.50 | 22.92 |
| 6. Советская Белоруссия | 12.90 | 10.41 | 26.91 | 22.45 |
| 7. Рэспубліка | 12.48 | 10.34 | 13.61 | 10.93 |
| 8. Народная газета | 5.89 | 4.79 | 7.40 | 5.45 |
| 9. 7 дней | 9.00 | 7.87 | 6.34 | 3.52 |
| 10. Народная воля | 8.03 | 12.71 | 27.47 | 20.44 |
| 11. Свободные новости-плюс | 10.04 | 17.29 | 19.24 | 14.56 |
| 12. Имя | 3.81 | 7.62 | 6.77 | 8.72 |
| 13. Белорусская газета | 39.07 | 31.34 | 24.27 | 44.42 |
| 14. Белорусский рынок | 40.09 | 47.08 | 31.44 | 38.95 |
| 15. Белорусская деловая газета | 13.25 | 26.01 | 13.88 | 6.13 |

СВАБОДА
5 лістапада 1996 г., № 84

## Стальны Сярго вяртаецца ў Барысаў

**Заўтра, 6 лістапада, у Барысаве, на скрыжаванні праспекта Рэвалюцыі і вуліцы Арджанікідзе адбудзецца ўрачыстае адкрыццё помніка вернаму ленінцу Сярго Арджанікідзе.**

Помнік чырвонаму камісару быў установлены ў 1936 годзе. У час другой сусветнай вайны яго разбурылі, а ў галодны 1947-ы постаць члена КПСС у ботах і сталінскім фрэнчы зноў паўстала ў Барысаве. У 1994 годзе помнік знялі на рамонт, але бетон настолькі струхнеў, што давялося рабіць новую скульптуру. Гарадскія ўлады знайшлі грошы, але толькі на бюст, затое з металічнага сплаву. Сярго Арджанікідзе адлілі на адной з мінскіх фірмаў па праекце скульптара Міхаіла Козела. Стальны Сярго будзе стаяць цяпер вечна.

Як патлумачылі ў Барысаўскім гарвыканкаме, на цырымоніі адкрыцця плануецца «снятие полотнища с бюста». Улады лічаць Сярго Арджанікідзе сваім вызваліцелем. У час грамадзянскай вайны камісар Сярго распрацаваў план контрудару супраць польскіх войскаў, якія ў выніку аперацыі былі адкінутыя за Бярэзіну.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Без верталёта з самагонам не справіцца

**У Свіслацкім раёне Гродзенскай вобласці ўлады разгарнулі сапраўдную антысамагонную вайну.**

За два тыдні работнікамі міліцыі канфіскаваны 41 самагонны апарат. На парушальнікаў накладзеныя штрафы ад 300 да 500 тыс. рублёў. Рэйды праводзіліся і ў самых глухіх кутках раёна — у Белавежскай пушчы.

Свіслацкая міліцыя адзначае новыя тэндэнцыі ў «самагонным бізнесе» — растуць памеры і прадукцыйнасць апаратаў, якія становяцца падобнымі да маленькіх спіртзаводаў. *«Мы іх знішчаем на месцы,* — паведаміў начальнік аддзела Свіслацкага РАУС А.Балбот, — *таму што з глухога месца пушчы вывезці іх без верталёта немагчыма».*

*БелаПАН*

## Міліцэйская газета

**У Гродне выйшаў першы нумар «Милицейского вестника» — газеты абласнога ўпраўлення ўнутраных справаў.**

Да Новага года гэтае выданне фармата «раёнкі» будзе штомесячным, а потым — штотыднёвым. У сувязі з гэтым іншым гродзенскім газетам, напэўна, больш ніколі не ўдасца атрымаць мясцовую крымінальную хроніку, папулярную сярод чытачоў. Канкурэнцыя ёсць канкурэнцыя. У новай газеце, між іншым, няма ніводнага беларускага слова. Тыраж «Вестника» — 3 тысячы асобнікаў, хаця ў адной толькі міліцыі вобласці 4,5 тыс. супрацоўнікаў.

**А.А.**

## У Мастах жалоба

**На мінулым тыдні ў райцэнтры Масты Гродзенскай вобласці ў адзін дзень хавалі адразу чатырох жыхароў. Усе яны загінулі ў Расіі.**

Трое маладых мужчын, якія працавалі будаўнікамі ў Маскве, былі спачатку забітыя, а пасля вагончык, дзе яны жылі, падпалілі. Работнікі маскоўскага морга не пасароміліся спаганяць грошы са сваякоў забітых: яны вымушаныя былі заплаціць па 600 тыс. расійскіх рублёў за кожнае цела.

Чацвёртага нябожчыка прывезлі з поўначы Расіі. Ён там у свой час быў на заработках, набыў кватэру, якую затым вырашыў прадаць. Але даехаць з грашыма дадому яму не далі злачынцы.

**Валодзя ЯНЧУК**

## Чарнобыльцы лічаць, што ўлады пра іх не клапоцяцца

**Інстытут сацыялогіі Акадэміі навук Беларусі правёў даследаванне сярод сем'яў пацярпелых ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС, якія пераехалі ў «чыстыя» зоны.**

Рэспандэнтам было прапанаванае пытанне *«Ці адчуваеце вы нервовае напружанне ў цяперашні час?».* Больш як трэцяя частка — 36% — адказалі: *«так, пастаянна».* Яшчэ большая колькасць перасяленцаў (43%) адчуваюць нервовае напружанне *«вельмі часта».* Толькі 3% рэспандэнтаў прызналі, што не адчуваюць нервовага напружання.

Сярод прычын псіхалагічнага дыскамфорту большая частка — 68% рэспандэнтаў — адзначыла *«матэрыяльныя праблемы сям'і».* 41% адчуваюць нервовае напружанне ў сувязі са станам уласнага здароўя і здароўя сваіх дзяцей. Практычна кожны трэці перасяленец (32%) перакананы, што пражыванне ў зоне радыяцыйнага забруджання абавязкова адаб'ецца на здароўі членаў ягонай сям'і.

Сярод іншых прычын стрэсаў і нервовай напружанасці называліся *эканамічная нестабільнасць у краіне* (28%), *страх застацца без працы і сродкаў да існавання* (27%), *сітуацыя на працы* (17%). Кожны чацвёрты апытаны лічыць, што *ўлады абыякавыя да праблем і патрэбаў перасяленцаў.*

*БелаПАН*

## «Бруднае» варэнне

**Санэпідэмстанцыя Гомеля спыніла продаж «радыяцыйнага» варэння з чарніц.**

Гэтым салодкім прадуктам Баранавіцкага харчовага камбіната гандлявала дзяржаўнае прадпрыемства з прыемнай назвай «Дабрабыт». У варэнні ўтрымлівалася радыенуклідаў у 4 разы больш за гранічна дапушчальныя нормы. Канфіскавана 687 паўлітровых слоікаў з «брудным» варэннем. Праз мясцовае радыё дактары звярнуліся да насельніцтва, каб людзі здалі 500 слоікаў, якія «Дабрабыт» ужо паспеў прадаць.

**Мікалай ГРЫПІЧ**

## Беспрацоўных стане больш

**У Гомелі на біржы працы афіцыйна зарэгістравана 8,7 тыс. беспрацоўных, з іх амаль 40% — людзі ва ўзросце да 25 гадоў.**

Сёлета было працаўладкавана 1.520 чалавек. Тым часам абласны цэнтр занятасці насельніцтва прагназуе, што да канца гэтага года шэрагі беспрацоўных папоўняць дадаткова 2.226 чалавек. Дарэчы, пазбавяцца працы ў асноўным работнікі самых буйных прадпрыемстваў Гомеля, такіх, як ВА «Карал», ВА «Гомсельмаш», трыкатажнай фабрыкі «8 Сакавіка» і радыёзавода.

**Мікалай ГРЫПІЧ**



СПОРТ

## Кулакі Формэна ўсё яшчэ моцныя

### ГАНДБОЛ: ГАЛОЎНАЕ — НАПЕРАДЗЕ

Мужчынская нацыянальная зборная Беларусі правяла чарговыя матчы ў адборачным турніры першынства свету. Абодва матчы ў зборнай Галандыі нашы выйгралі. Але калі ў гасцях беларусы дзейнічалі энэргічна і дасягнулі ўнушальнай перавагі — 33:20, то ў мінулую нядзелю гледачы ўбачылі каманду млявай, замаруджанай, і нашыя з цяжкасцю перамаглі — 25:22.

І ў нядаўніх матчах супраць каманды Ізраіля было тое ж самае. Добра адгуляўшы дома, нашы ў гасцях аддалі перамогу саперніку, які відавочна саступаў у класе. А лідэры каманды Андрэй Барбашынскі, Генадзь Халепа, Андрэй Клімавец гуляюць за клубы нямецкай бундэслігі і там выкладваюцца ў кожным матчы.

Цяпер у зборнай Беларусі пасля чатырох сустрэч шэсць набраных ачкоў і яшчэ невядома колькі ў маючых адбыцца паядынках з лідэрам групы — камандай Чэхіі. Каб стаць удзельнікамі фінальнага турніру чэмпіяната свету 1997 года, які пройдзе ў Японіі, нашым хлопцам трэба перамагаць моцнага саперніка, прычым двойчы. Патэнцыяльна яны на гэты здольныя, а рэальна?

### ВАЛЕЙБОЛ: ФРАНЦУЗЫ «АДПОМСЦІЛІ» ЗА ФРАНЦУЖАНАК

А вось мужчынская зборная валейбалістаў шанцы прабіцца ў фінал еўрапейскага чэмпіянату практычна страціла, хаця правяла толькі тры адборачных матчы з дзесяці. У апошнім з іх, які адбыўся нядзельным вечарам у Гродне, беларусы з сухім лікам прайгралі французам — 0:3 (6:15, 2:15, 7:15). Як тут не ўспомніць, што зусім нядаўна нашыя дзяўчаты двойчы — дома і ў гасцях — абыгралі францужанак. Хлопцы ж пакуль толькі прайграюць.

### ФУТБОЛ: У РАСІІ — ДВОЕЎЛАДДЗЕ, А Ў НАС?

Апошні, 34-ы, тур расійскага футбольнага чэмпіянату не даў адказу на сакраментальнае пытанне: «А ты хто такі?». Лідэры — футбалісты ўладзікаўказскай «Аланіі» і маскоўскага «Спартака» — атрымалі перамогі над «Лакаматывам» (Ніжні Ноўгарад) — 3:1 і «Зенітам» (Санкт-Пецярбург) — 2:1. У выніку абедзве каманды набралі па 72 ачкі і цяпер сустрэнуцца ў дадатковым матчы за тытул чэмпіёна. Дата і месца правядзення гульні будуць вызначаныя дадаткова. А бронзавыя ўзнагароды выйгралі футбалісты валгаградскага «Ротара» — 70 ачкоў. Астатнія месцы ў шасцёрцы лепшых занялі папулярныя маскоўскія клубы «Дынама» — 67, ЦСКА — 66. На сёмае месца нечакана выйшла «Балтыка» (Калінінград), якая дасягнула ў апошнім туры перамогі над аўтсайдэрам — «Тэкстыльшчыкам» з Камышына — 4:1 (два галы на ліку беларуса Баранава). У поспеху «Балтыкі» ёсць і заслуга беларускіх легіянераў Васіля Баранава, Юрыя Шуканава, Андрэя Шанталосава. А ўсяго 20 нашых землякоў гулялі за 9 клубаў вышэйшай лігі Расіі. Самымі выніковымі сярод іх сталі Андрэй Каваленка («Ростсельмаш») — 9 мячэй, Баранаў і Міраслаў Рамашчанка («Уралмаш») — па 5. Апошні, дарэчы, падпісаў на днях кантракт з маскоўскім «Спартаком» тэрмінам на чатыры гады.

А ў беларускім чэмпіянаце наперадзе яшчэ два туры. Прапушчаны матч «Дынама» (Мінск) — «Лакаматыў-96» (Віцебск) скончыўся ўнічыю — 1:1. Цяпер наперадзе МВКЦ (Мазыр), на ачко ззаду мінскае «Дынама». Інтрыга застаецца...

### НАСТОЛЬНЫ ТЭНІС: САМСОНАЎ РАСЦЕ

У Німе (Францыя) мінчанін Уладзімір Самсонаў заняў трэцяе месца ў розыгрышы Кубка свету. А перамог алімпійскі чэмпіён Лю Гуолян.

### ТЭНІС: «ВЯЛІКАЯ» ГУЛЬНЯ ПРЫХОДЗІЦЬ У МІНСК

У Мінскім палацы тэнісу скончыўся міжнародны жаночы турнір з серыі «сатэлітаў». У фінале 16-гадовая мінчанка Надзея Астроўская абыграла аднагодку з Расіі Людмілу Скаўронскую — 6:3, 6:4. У другі раз Надзея святкавала перамогу пасля таго, як разам з зямлячкай Верай Жукавец выйграла турнір у парным разрадзе. Дададзім, што прызавы фонд мінскага спаборніцтва склаў 10.000 долараў.

А ў Парыжы лепшыя тэнісісты свету разыгралі два з паловай мільёны. Выйграў 22-гадовы швед Томас Энквіст, які ў фінале прадэманстраваў упэўненую перавагу над расіянінам Яўгенам Кафельнікавым — 6:2, 6:4, 7:5. За што і атрымаў 339 тысяч «зялёных».

А ў Маскве жаночую частку турніру на «Кубак Крамля» выйграла іспанка Канчыта Марцінес. Беларускі ў гэтым турніры ўдзелу не прымалі.

### БОКС: НЕЎМІРУЧЫ ФОРМЭН

У Токіо 47-гадовы Джордж Формэн ў чарговы раз заваяваў званне чэмпіёна свету ў суперцяжкай вазе, перамогшы па ачках у 12-раўндавым баі свайго суайчынніка Кроўфорда Грымсбі. Упершыню Формэн завалодаў гэтым тытулам чвэрць стагоддзя таму.

**Сямён ПЛОЦ**



Падпісны індэкс 63887 E-mail: edit@svaboda.minsk.by Internet: http:\\www.gis.minsk.by © СВАБОДА Спасылка на газету СВАБОДА абавязковая Наклад 46.300
Нумар падпісаны ў друк 04.11.96 (15.00) Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) ЛВ № 215 Заказ 2627